Гродна
№19 (454), 23 кастрычніка 2016

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

www.slowo.grodnensis.by





# Па слядах Яна Паўла ІІ у Гродзенскай дыяцэзіі

**22 кастрычніка прыпадае літургічны ўспамін св. Яна Паўла ІІ, першага Папы славянскага паходжання. Гады яго пантыфікату (1978–2005) сталі самымі яркімі ў амаль двухтысячагадовай гісторыі Касцёла. Святы Айцец здзейсніў неймаверную для кіраўніка царквы колькасць замежных візітаў, дамогся прадстаўніцтва Ватыкана ў ААН. Выступаў супраць адмены цэлібату, абортаў і аднаполых шлюбаў. Яшчэ пры жыцці Пантыфік набыў вялікую папулярнасць і павагу ва ўсім свеце. У яго гонар у сотнях гарадоў розных краін былі названы вуліцы, універсітэты, школы, бальніцы... Які след Ян Павел ІІ пакінуў у Гродзенскай дыяцэзіі?**

● працяг на с. 3

# Лямус пабрыгіцкага кляштара дачакаўся рэстаўрацыі



**Каб стаць прывабным турыстычным аб'ектам горада над Нёманам, унікальны помнік гаспадарчага і жыллёвага дойлідства будзе аднаўляцца цягам трох гадоў. Курыраваць рэстаўрацыю самай старой драўлянай пабудовы на тэрыторыі Беларусі будзе Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы. Як заўважаюць спецыялісты, галоўная задача – не нашкодзіць, а захаваць тое, што ёсць.**

● працяг на с. 5

## Каляндар падзей

***28 кастрычніка***
*Свята свсв. апосталаў Сымона і Юды Тадэвуша.*

***30 кастрычніка***
*Урачыстасць гадавіны асвячэння ўласнага касцёла.*

***1 лістапада***
*Урачыстасць Усіх Святых.*

***2 лістапада***
*Успамін усіх памерлых вернікаў. За наведванне могілкаў 1–8 лістапада можна атрымаць поўны адпуст.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***"Сімвал веры"***
*Тэлеперадача аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі. Выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь–4". Чарговы выпуск – 6 снежня ў 19.45, паўтор – 7 снежня ў 9.00.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Лістапад***

*За сясцёр і братоў з розных ордэнаў і кангрэгацый, якія дзейнічаюць на тэрыторыі дыяцэзіі.*

*Аб развіцці манаскага жыцця ў дыяцэзіі і плённай дзейнасці манахаў і манахінь у адпаведнасці з атрыманай ад свайго заснавальніка харызмай для агульнага дабра Касцёла.*

**"Логіка хрысціяніна з даверам глядзіць на ўваскрашэнне цела". Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### XXX ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ
**Лк 18, 9–14**

Езус расказаў такую прыпавесць некаторым упэўненым у сваёй праведнасці, якія пагарджалі іншымі: "Два чалавекі зайшлі ў святыню памаліцца; адзін фарысей, а другі мытнік. Фарысей, стаўшы, маліўся сам сабе так: «Божа, дзякую Табе, што я не такі, як іншыя людзі, рабаўнікі, несправядлівыя, распуснікі або як гэты мытнік. Пашчуся два разы на тыдзень, даю дзесяціну з усяго, што набываю». А мытнік, стоячы воддаль, не адважваўся нават падняць вачэй да неба, але, б'ючы сябе ў грудзі, казаў: «Божа, будзь міласцівы да мяне, грэшніка». Кажу вам, што менавіта гэты пайшоў у дом свой апраўданы, а не той, бо кожны, хто ўзвышае самога сябе, прыніжаны будзе, а хто прыніжае сябе, узвысіцца".

### ШАНС НА ЗБАЎЛЕННЕ

Справядлівасць – гэта цнота, на якую абапіраюцца міжасабовыя адносіны людзей. Аддаваць тое, што належыць, быць у разліку, не ствараць клопатаў – усё гэта прыкметы сумленнага чалавека, якому можна давяраць.

Справядлівымі людзьмі ў габрэяў лічыліся фарысеі. Мытнікі ж прызнаваліся здраднікамі свайго народу, бо працавалі на рымскага акупанта. Чаму Езус у сённяшнім Евангеллі ставіць у прыклад менавіта мытніка, а не фарысея? Фарысей захоўваў суровы пост, абыходзячыся два дні штотыднёва без пітной вады, і аддаваў дзесяціну, памеры якой маглі перавышаць 20% заробку. Але рабіў ён гэта для заспакаення пачуцця ўласнай дасканаласці і не адчуваў неабходнасці ў Божым апраўданні, бо лічыў сябе справядлівым. Мытнік жа, б'ючы сябе ў грудзі, выражаў жаль за грахі, прызнаваўся перад Усемагутным, што патрабуе Яго міласэрнасці, таму быў апраўданы перад трыбуналам Нябеснага Айца.

Бог дае шанс на збаўленне толькі тады, калі мы становімся пакорлівымі.

### XXXI ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ
**Лк 19, 1–10**

Езус увайшоў у Ерыхон і праходзіў праз яго. І вось адзін чалавек па імені Закхей, кіраўнік мытнікаў і багаты, стараўся ўбачыць Езуса, хто Ён такі, але не мог з-за натоўпу, таму што быў малога росту. Забегшы наперад, ён залез на смакоўніцу, каб убачыць Яго, бо Ён павінен быў там праходзіць. Калі Езус прыйшоў на гэтае месца, паглядзеў уверх і сказаў яму: "Закхей, хутчэй спускайся, бо сёння мне трэба быць у тваім доме". Той хутка спусціўся і прыняў Яго з радасцю. А ўсе, убачыўшы гэта, пачалі наракаць і казалі, што Ён зайшоў пагасціць да грэшнага чалавека. Закхей жа ўстаў і сказаў Пану: "Вось палову маёмасці сваёй, Пане, я аддам убогім і, калі каго ў чым ашукаў, аддам у чатыры разы больш". Езус сказаў яму: "Сёння прыйшло збаўленне ў дом гэты, таму што і ён сын Абрагама. Бо Сын Чалавечы прыйшоў знайсці і ўратаваць тое, што загінула".

### ЗБАЎЛЕННЕ ДЛЯ КОЖНАГА

Нечаканы паварот падзей... Багаты мытнік, які нажываўся на чужых грашах, якога цікавіла толькі багацце, пасля сустрэчы з Езусам навярнуўся, пастанавіў выправіць учыненае зло. Хрыстос даў гэтаму духоўнаму небараку надзею. Дзякуючы таму, што Закхей прыняў прапанову Езуса і змяніў свой стыль жыцця, выратаванне перайшло на ўвесь яго дом.

Большасць габрэяў верыла, што збаўленне будзе ўдзелам усіх ізраільцян, нашчадкаў Абрагама, акрамя тых, якія самі сябе "выключылі", робячы страшэнныя злачынствы. На працягу сваёй гісторыі Ізраэль неадночы адварочваўся ад Бога, ламаючы з Ім запавет, але Усемагутны заўсёды прабачаў тым, хто каяўся.

Бог, як Добры Пастыр, няспынна шукае тых, хто заблукаў. Гэтая радасная вестка напаўняе надзеяй на тое, што збаўленне прыйдзе і ў наш дом. Трэба толькі спусціцца з дрэва граху, дазволіць Богу ўбачыць сябе, каб хутка аказацца ў Яго любячых руках.

*Кс. Павел Эйсмант*



## Слова рэдактара
*Кс. Юрый Марціновіч*

*Час пралятае вельмі хутка. Вось-вось распачнецца лістапад – месяц роздуму над сэнсам жыцця і яго мінучасці. А тое, будзе гэты роздум радасным і поўным надзеі ці сумным і прыгнятальным, залежыць ад нашай веры ў жыццё пасля смерці.*

# Спяшаймася любіць людзей...

Халодныя лістападаўскія дні звычайна атаясамліваюцца ў хрысціян з могілкамі, памяццю і малітвай за памерлых. Мы наведваем іх магілы, атрымліваем адпусты. Перад вачамі паўстаюць твары людзей, якіх ужо няма. Але ці сапраўды няма? Нават калі не пабач, яны на самой справе ёсць і надалей будуць. Трэба толькі ў гэта паверыць і быць цярплівымі. Калісьці з імі абавязкова сустрэнемся.

Так ужо адбываецца, што мы заўсёды некуды спяшаемся, не здольныя спыніцца на хвіліну і адпачыць. Жывём у пастаянным бегу: школа, праца, сужэнства, абавязкі, барацьба за забеспячэнне лепшых умоў дзецям, апека над унукамі... Імкнёмся любой цаной рэалізаваць планы і пастановы, думаючы пра тое, што яшчэ трэба было б зрабіць. І толькі калі нападае цяжкая хвароба, старасць ці смерць кагосьці блізкага, мы перастаём удзельнічаць у гэтай гонцы і пачынаем задумвацца: навошта ўсё гэта? Які яно мае сэнс? Варта задумацца над тым, што сапраўды самае важнае. Запаволіць тэмп і агледзецца навокал, набліжаючыся да Бога, які ёсць Дарога, Праўда, Жыццё і Шчасце вечнае. Паспех нас губіць, бо з-за яго не маем часу на блізкіх. Акалі ён із'яўляецца, пытаем сябе: "Навошта, калі цяпер яго няма з кім правесці...".

Неабходна разумець, што смерць прыходзіць як няпрошаны госць, не пытаючыся, ці гатовыя мы. Таму трэба заўсёды быць падрыхтаванымі да сустрэчы з Панам "тварам у твар". Пастараемся жыць так, каб смерць не спаткала нас знянацку і не прыйшла тады, калі яе не чакаем. Толькі ад нас саміх залежыць, будзе жыццё ярка зззяючай паходняй, якая дае святло і цеплыню тым, хто ідзе за ёй, ці ледзьве тлеючай свечкай, якая згасае і нават не пакідае пасля сябе следу.

**У першыя дні лістапада давайце схілімся над магіламі блізкіх. Хоць на хвіліну ўзгадаем іх твары, запалім свечкі на іх памяць. Нявяжна, добрыя ці дрэнныя гэта былі людзі. Толькі ў нас ёсць тая незвычайная моц – выпрасіць для іх у Бога ласку вечнага шчасця ў небе.**

# УЧЫНАК ДЛЯ ЦЕЛА БЛІЖНЯГА. СУЦЯШАЦЬ ВЯЗНЯЎ




Мабыць, яны таксама хацелі шчасця, але, на жаль, згубіліся ў яго пошуках, сышлі з праведнага шляху. Магчыма, ніхто з блізкіх не растлумачыў, як яно выглядае, і людзі аступіліся, у пакаранне страціўшы волю. Але гэта не азначае канец! Учыненае зло ўказвае на падзенне, пасля якога трэба ўстаць і пакаяцца. І тое, што чалавек яшчэ жывы, гаворыць аб тым, што Бог дае час, каб выправіцца.

Свет вязняў – гэта вобраз укрыжаваных жыццём людзей, якіх нельга пакідаць на волю лёсу. Дзесьці глыбока ў душы зняволеныя жывуць з пераканaннем, што хтосьці адкрые на іх свае вочы і сэрца, не будзе ацэньваць, а падумае з міласэрнасцю. Некалі Ян Павел II дакладна заўважыў: "Кожны вязень, які адбывае пакаранне за ўчыненае злачынства, не перастаў быць чалавекам. І хоць на ім ляжыць цяжар слабасці, небяспекі і граху, а можа, нават настойлівае вяртанне да яго, усё ж ён не пазбаўлены той цудоўнай магчымасці, якой з'яўляецца наяртанне, выпраўленне". Акружаючым варта разумець, што дрэнны не чалавек, а яго ўчынкі.

Суцяшаць – значыць прыносіць палёгку, заспакаенне. Таму суцяшэнне вязняў скіравана на будучыню і праз гэта звязана з вяртаннем надзеі. Зняволены павінен усвядоміць, што ён здольны да дабра. Ніколі не позна навярнуцца, заўсёды можна пачаць спачатку. Бог гэтага чакае, запрашае кожнага без выключэння да невычарпальнай крыніцы міласэрнасці.

Вязням як нікому патрэбна любоў, бо за кратамі яны вострa адчуваюць яе недахоп. Гэтую любоў можна рэалізаваць, перш за ўсё, у малітве. Праз заступніцтва бліжніх Езус, поўны міласэрнасці, удзяляе грэшнікам сваё блаславенне, што з'яўляецца найважнейшай падтрымкай у справе збаўлення.

На сёння ў Беларусі функцыянуе каля 30-ці ўстаноў закрытага тыпу крымінальна-выканаўчай сістэмы (у тым ліку папраўчыя і выхаваўчыя калоніі, СІЗА і турмы). У іх адбываюць пакаранне больш за 30 тысяч чалавек. Калі б на кожную сотню католікаў у нашай краіне знайшлася хоць адна сям'я, якая б малілася за вязня, духоўнай апекай былі б забяспечаны ўсе зняволеныя.

Трэба не забывацца на адну важную ісціну: у кожнай асобе, створанай па вобразе і падабенстве Усемагутнага, увасоблены Хрыстос. Да таго, сам Езус падкрэслівае, што жыве ў кожным, хто пакутуе ад адзіноты: "Быў у вязніцы, і вы прыйшлі да Мяне" (Мц 25, 36). Непасрэдна Хрыстос, схоплены ў Гефсіманіі ля паднoжжа Аліўнай гары і заведзены на слуханне перад Сінэдрыёнам, пасля абвяшчэння прыгавору, што асуджаў Яго на смерць, апошнюю ноч свайго жыцця правёў кінуты ў цямніцу, што выконвала функцыю турмы. Таму заставацца нячулымі да зняволеных няправільна, бо тым самым праяўляецца здрада хрысціянству.



У Евангеллі паводле св. Яна чытаем словы Езуса: "Кожны, хто чыніць грэх, – гэта нявольнік граху" (Ян 8, 34). Наказ суцяшэння вязняў нясе абавязацельства актыўнага ўдзелу ў справе выпраўлення грэшнасці кожнага чалавека і цэлага чалавецтва. Не заўсёды трэба накіроўвацца ў турму, каб сустрэць людзей, якія востра патрабуюць дапамогі ў вызваленні з путаў зла і сапсаванасці. Адно зняволенне з'яўляецца для чалавека крыніцай сілы і прычынай для славы – калі ён захоплены і зняволены Хрыстом.

*Ангеліна Пакачайла*

**5 прычын здзейсніць учынак міласэрнасці:**

1. *Знаходзячыся ў турме, чалавек вельмі пакутуе.*
2. *За кратамі ён сустракаецца з роспачу і расчараваннем.*
3. *Бліжні не мае права пазбаўляць кагосьці шанса, які таму дае Бог.*
4. *Хрысціянін пакліканы несці ў свет Добрую Навіну.*
5. *Асоба, якая спачувае, з'яўляецца вялікім скарбам для пакутуючага.*


*Кс. Ян Кучынскі*

*Суцешыць таго, хто асуджаны на пакаранне за злачынствa, хто прычыніў камусьці боль, прымусіў пакутаваць ці нанёс вялікія страты, – нялёгкае заданне. Таксама, як нялёгка любіць тое, што немагчыма любіць, прабачаць там, дзе немагчыма прабачыць. Але менавіта ў гэтым і заключаецца міласэрнасць. Калі няма магчымасці наведваць вязняў, можна іх суцяшаць хаця б словам, праз адпраўленне лістоў, малітвай, дапамагаючы зразумець, што не ўсё яшчэ страчана, заўсёды ёсць шанс на перамену жыцця і паводзін. Але тое залежыць ад самога вязня. Пакаранне, якое адбывае чалавек, не з'яўляецца помстай ці прыгаворам на асуджэнне, а толькі дарогай і часам для навяртання. Хрысціянскі абавязак – абвяшчаць Добрую Навіну праз напамін, што ўсё не заканчваецца турмой. А каб гэта зразумець, трэба карыстацца Божай міласэрнасцю і нанова адкрываць сябе ў Хрысце.*

# Па слядах Яна Паўла II у Гродзенскай дыяцэзіі

працяг са с. 1

Некалькі гадоў таму ў Смаргоні паўстала парафіяльная супольнасць св. Яна Паўла II. У 2014 годзе там быў асвечаны фундамент касцёла ў гонар святога. У мінулым годзе – капліца ў Цэнтральным раённым шпіталі ў Міхалішках. У Сапоцкіне і Макараўцах імем Яна Паўла II названы вуліцы. У Васілішках і Войстаме святому пабудаваны помнікі. Існуе надзея, што помнік хутка можа з'явіцца і ў горадзе над Нёманам.

На цэнтральнай плошчы ў Іўі ў 2012 годзе ўсталяваны памятны знак у гонар дружбы і адзінства рэлігій. Ён уяўляе сабой 4 велічныя стэлы з аркамі, прысвечаныя католікам, праваслаўным, мусульманам і юдэям. На каталіцкай арцы размешчана фігура Яна Паўла II у папскім уборы з узнятай на благаслаўленне рукой. ***“Святы Айцец быў той асобай, якая яднала людзей. Таму менавіта яго фігуру змясцілі на помніку ў якасці запавету нашчадкам”,*** – заўважае пробашч іўеўскай парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла кс. Ян Гавецкі.

У 10-ю гадавіну заснавання Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне была адкрыта актавая зала ім. Яна Паўла II. Такім чынам кіраўніцтва выразіла павагу да Папы, які ў 1991 годзе выдаў булу “Qui operam” аб стварэнні Гродзенскай дыяцэзіі. Актавы зал з'яўляецца самым вялікім памяшканнем у семінарыі. У яго сценах праходзяць шматлікія асветніцкія, адукацыйныя і культурныя мерапрыемствы.

Амаль 10 гадоў пры парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне дзейнічае мастацкі тэатр ім. Яна Паўла II. У яго склад уваходзяць 30 акцёраў ва ўзросце 5–18 гадоў. Маладыя артысты ўдзельнічаюць у арганізацыі парафіяльных культурна-забаўляльных мерапрыемстваў. ***“Караль Вайтыла быў вялікім аматарам тэатральнага мастацтва,*** – распавядае мастацкі кіраўнік тэатра ім. Яна Паўла II Марына Жыбартовіч. – ***Ён удзельнічаў у школьных пастаноўках і нават хацеў у будучым стаць акцёрам або драматургам. Немагчыма ўявіць лепшага апекуна тэатра. Хоць на той час Папа яшчэ не быў святым, але яго прыклад, а цяпер і нябеснае заступніцтва, дапамагаюць нам у рэалізацыі натхненняў Святога Духа”.***


*У 34-ю гадавіну замаху на жыццё Яна Паўла II яго рэліквіі былі ўрачытса ўнесены ў касцёл у Зарачанцы*

На працягу 4-х гадоў у парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля праводзіцца творчы конкурс, прымеркаваны да ўспаміну Яна Паўла II. Каля 30-ці ўдзельнікаў ва ўзросце 8–62 гадоў прадстаўляюць свае працы ў намінацыях “апавяданне”, “верш”, “пластычная праца”, “калаж”, “ручная праца”, “мультымедыйная прэзентацыя”. ***“Ян Павел II змяніў кірунак у свеце,*** – гаворыць ініцыятар конкурса, культуролаг парафіі Віялета Кавальчук. – ***Пра такое нельга забыцца. Да таго, Папа вельмі блізкі нам сваёй традыцыяй, верай. Многія жылі яго пантыфікатам!”.***

З 2005 года ў дыяцэзіі праходзіць футбольны турнір памяці Яна Паўла II. Па традыцыі ў ім удзельнічаюць маладыя людзі з каталіцкіх парафій ад 17-ці гадоў. За ўвесь час на спаборніцтвах выступілі 126 каманд з усёй Беларусі. ***“Задача турніру – дзяліцца хрысціянскімі каштоўнасцямі праз спорт,*** – зазначае адзін з арганізатараў кс. Артур Малафей. – ***Мы прысвяцілі яго памяці Яна Паўла II, таму што Пантыфік быў і застаецца маральным аўтарытэтам для маладога пакалення. Святы Айцец надаваў вялікае значэнне спорту. Неаднаразова падкрэсліваў, што да супернікаў трэба адносіцца з павагай, не забывацца, што спаборнік – не вораг, а брат”.***

У шылавіцкай парафіі Найсвяцейшай Тройцы сумленна і аддана служыць Богу і людзям пробашч кс. Мар'ян Хаменя CSMA. Гэта той святар, якога Ян Павел II благаславіў на пастырскі шлях. З рук Пантыфіка ў 1987 годзе ў Люблінe (у межах III апостальскага візіту ў Польшчу) ксёндз у ліку 25-ці членаў ордэна міхалітаў атрымаў святарскія пасвячэнні. ***“Я вельмі перажываў,*** – узгадвае кс. Мар'ян. – ***Памятаю, як у канцы св. Імшы на знак супакою неабходна было абняць і пацалаваць Папу, дакрануўшыся да яго левай і правай шчакі. Па прывычцы я хацеў зрабіць гэта трэці раз, як у нас прынята. І таму атрымалася, што апошні свой жэст рабіў насільна, чым трохі збянтэжыў Папу”.*** Сёння абраз святога разам з выявай с. Фаўстыны Кавальскай вісіць над ложкам у пакоі кс. Мар'яна. Да іх ён звяртаецца ва ўсіх цяжкасцях і патрэбах.

Неаднаразова з Янам Паўлам II сустракаўся пробашч парафіі Перамянення Пана ў Селіванаўцах а. Казімір Енджэйчак OMI. ***“Я бачыўся са Святым Айцом будучы клерыкам падчас навучання ў Рыме,*** – узгадвае святар. – ***Памятаю, як падчас адной з агульных аўдыенцый на плошчы св. Пятра Папа праходзіў блізка мяне з выцягнутымі рукамі. Разам з іншымі я кінуўся да гэтых адкрытых далоняў. Адчуў любоў і цеплыню яго сэрца”.*** Найбольшае ўражанне засталося ў святара пасля сустрэчы з Янам Паўлам II падчас першай у гісторыі Касцёла ў Беларусі пілігрымкі ў Ватыкан. Святы Айцец прыняў групу вернікаў на спецыяльнай аўдыенцыі ў зале Паўла VI. “***У канцы сустрэчы духоўныя асобы стаялі ў чарзе адзін за другім, каб падысці і прывітацца са Святым Айцом. Неспадзявана Папа нахіліў галаву і паглядзеў на мяне. Нашыя вочы сустрэліся. Позірк Святога Айца быў дзівосны, пранікаў да глыбіні сэрца, падаўся мне нават суровым, як у заклапочанага бацькі. Ён нібы заглядваў унутр, у душу. Вочы Яна Паўла II ззялі яркім святлом. Ніколі не бачыў нічога падобнага. Стаяў і глядзеў, здзіўлены, у твар Пантыфіку. Калі падышла мая чарга прывітацца з Янам Паўлам II, адчуў вялікую радасць і дзіўную лёгкасць”.*** А. Казімір мае і вельмі цэніць ружанец са змешчаным у ім кавалкам белай


*Кожная арка помніка ў Іўі разгорнута ў бок святыні адпаведнай рэлігіі*

сутаны св. Яна Паўла II. Гэтую незвычайную рэліквію ён атрымаў у падарунак ад сясцёр кармэлітак босых з Кодня з нагоды сярэбранага юбілею святарства. ***“Карыстаючыся гэтым ружанцам, маю ўражанне, што нібы дакранаюся да св. Яна Паўла II з верай у еднасць святых”,*** – зазначае а. Казімір.

Свой першы выезд у Рым успамінае біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. У той час ён яшчэ служыў пробашчам парафіі Святога Духа ў Вільнюсе. ***“Біскупам для Беларусі быў абвешчаны кс. Тадэвуш Кандрусевіч. Яго біскупская кансэкрацыя адбывалася ў Вечным горадзе,*** – узгадвае іерарх. ***– Тады ў нас была магчымасць прысутнічаць у прыватнай капліцы Яна Паўла II на св. Імшы, якую ён цэлебраваў. Бясспрэчна, гэта цудоўны досвед і вялікая ласка”.*** Пазней, у якасці біскупа, гродзенскі ардынарый меў шмат такіх спатканняў са Святым Айцом. ***“Гэта былі дастаткова непасрэдныя і сяброўскія сустрэчы з Янам Паўлам II. Аднойчы я перадаў Папе альбом з выявамі Гродна. Пантыфік прыняў гэты падарунак, прытуліў да сябе і сказаў: «Нікому не аддам. Дзякуй!». Ён заўсёды ўзгадваў Гродна, Навагрудак, цікавіўся нашым краем і духоўна туды пілігрымаваў”.***

***“Мне давялося прысутнічаць на кананізацыі Яна Паўла II у Рыме,*** – успамінае Вікторыя Пабудзей з парафіі св. Уладзіслава ў Суботніках. – ***У той час я зразумела адну вельмі важную рэч: трэба верыць да канца, таму што ў Бога няма нічога немагчымага. Глыбока засталіся ў памяці словы святога, які пры жыцці заклікаў ставіць сабе патрабаванні, «нават калі іншыя ад вас нічога не патрабуюць». Цешуся, што маем такога заступніка ў небе”.***

Святы Айцец глыбока паважаны і любімы ў Гродзенскай дыяцэзіі. Амаль у кожным касцёле або капліцы знаходзяцца абразы і памятныя таблiцы ў гонар святога. У многіх парафіях існуюць Ружанцовыя колы, заступнікам якіх з'яўляецца св. Ян Павел II. Такім чынам вернікі злучаюцца са святым у адной з яго любімых малітваў, якой быў Ружанец.

Ян Павел II таксама ўшанаваны ў рэліквіях, што прысутны ў некаторых парафіях дыяцэзіі. Год таму ў касцёл Узвышэння Святога Крыжа ў Макараўцах была ўрачыста ўнесена часцінка крыві Яна Паўла II. Некалькімі месяцамі раней такія ж рэліквіі з'явіліся ў касцёле Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Зарачанцы. А ў 2013 годзе – у парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне. З 2012 года рэліквіі крыві святога захоўваюцца ў дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай у Тракелях. У дзень кананізацыі Яна Паўла II у гродзенскай катэдры св. Францішка Ксаверыя адбылося ўрачыстае набажэнства, падчас якога ў касцёл быў унесены рэлiквіярый з часцінкай крыві святога Папы. Тады ж была асвечана і ўсталявана ў бакавой наве касцёла яго гіпсавая фігура. З нядаўняга часу рэліквіі крыві святога прысутнічаюць у капліцы Гродзенскай абласной клінічнай бальніцы.

Незадоўга рэліквіі з'явяцца таксама ў гродзенскіх касцёлах Найсвяцейшага Збавіцеля і Усіх Святых (касцёл знаходзіцца на старых каталіцкіх могілках па вул. Антонава) і Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі. ***“Кардынал Станіслаў Дзівіш, які быў шматгадовым сакратаром Папы, ужо зацвердзіў гэтае рашэнне,*** – паведамляе рэктар пабрыгіцкага касцёла кс. Антоній Грэмза. – ***Рэліквіі прыбудуць у нашу святыню з Кракава ў лістападзе. Падзея прымеркавана да 10-гадовага юбілею Душпастырства студэнтаў і працуючай моладзі «OPEN», якое адчувае моцную еднасць з Папам. Менавіта яго словы маладыя людзі абралі за дэвіз супольнасці: «Будучыня ў вашых сэрцах і руках». Яго імкнуцца пераймаць у жыцці. Такім чынам мы стараемся захаваць духоўную спадчыну Яна Паўла II. Падтрымкай у гэтым будзе прысутнасць святога ў сценах касцёла, а перадусім, у нашых сэрцах”.***

*Кс. Юрый Марціновіч*
*і Ангеліна Пакачайла*

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### Папа Францішак



*Учынкі міласэрнасці абуджаюць у нас патрэбу і здольнасць рабіць веру жывой і актыўнай праз дзеянне сваёй любові. Я перакананы, што праз гэтыя простыя штодзённыя жэсты мы можам здзейсніць сапраўдную культурную рэвалюцыю, як гэта было ў мінулым. Колькіх святых яшчэ сёння памятаюць не за рэалізаваныя вялікія справы, але дзякуючы любові, якую яны здольны былі сведчыць. Учынкі міласэрнасці з'яўляюцца рысамі аблічча Езуса Хрыста, які клапоціцца пра сваіх самых малых братоў, каб прынесці кожнаму пяшчоту і блізкасць Бога. Няхай Дух Святы запаліць у нас жаданне жыць паводле такога ладу. Давайце нанова вывучым на памяць учынкі міласэрнасці адносна цела і душы, просячы Пана, каб дапамог нам рэалізаваць іх кожны дзень.*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі Святога Айца, 12.10.2016*

### Кс. бп Юзаф Станеўскі



*Згодна з падказкай Езуса, будаваць трэба на скале, бо тады дом не зможа абрушыцца. Гэта значыць, будаваць на Хрысце і з Хрыстом. З Кімсьці, хто заўсёды верны, нават калі мы не захоўваем вернасць, з Кімсьці, хто пастаянна схіляецца над нашым зраненым грахом сэрцам і гаворыць: “Я не асуджаю цябе. Ідзі і адгэтуль больш не грашы”.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас інаўгурацыі навучальнага года ў Гродзенскай ВДС, 08.10.2016*

### Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч



*Сапраўдная хрысціянская ідэнтычнасць – няпростая справа. Быць хрысціянінам азначае прыняць праўду Евангелля і жыць ёю. Небяспека, якая нам пагражае, заключаецца ў тым, што, вызваліўшыся ад знешніх путаў, мы па сваёй волі трапляем у іншыя формы прыгнёту. А іх вельмі шмат у сучасным свеце, і яны вядуць да парушэння Божага закону.*

*Катэхізіс каталіцкага Касцёла вучыць, што “чалавечае сэрца абцяжаранае і разлютаванае. Неабходна, каб Бог даў чалавеку новае сэрца. Навяртанне – гэта, перш за ўсё, справа ласкі Бога, які вяртае нашыя сэрцы да сябе. Бог дае сілы распачаць жыццё нанова. Адкрываючы для сябе веліч Божай любові, сэрца скаланаецца ад жаху і цяжару граху і пачынае баяцца абразіць Бога грахом і аддаліцца ад Яго. Сэрца чалавечае навяртаецца, пазіраючы на Таго, хто быў прабіты нашым грахом” (ККК 1432).*

*Фрагмент Пастырскага паслання на распачацце перэгрынацыі фігуры МБ Фацімскай у Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі*



◆ Наступнае пленарнае пасяджэнне Савета біскупскіх канферэнцый Еўропы адбудзецца ў сталіцы Беларусі. Пра гэта стала вядома 8 кастрычніка па выніках вячэрняга галасавання біскупаў, якое ў гэтым годзе праходзіла ў княстве Манака. У 2017 годзе Мінск наведаюць больш за 40 кардыналаў і біскупаў з усіх краін Еўропы і Ватыкана. Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі Тадэвуш Кандрусевіч назваў такое рашэнне "знакам вялікай павагі, гонару і прэстыжу для каталіцкага Касцёла ў Беларусі і для дзяржавы ў цэлым".

◆ XXI Агульны сход Таварыства каталіцкага апостальства сабраў у рэкалекцыйным доме Боскага Настаўніка ў Арыча каля Рыма 65 дэлегатаў – прадстаўнікоў каля 2400 палатынаў, што працуюць у больш за 50-ці краінах свету. На сходзе быў выбраны Генерал таварыства – кс. Джэйкаб Нампудакам, віцэ-генерал – кс. Юзаф Лясак, а таксама і іншыя члены Генеральнай рады: 4 кансультанты, эканом, сакратар і пракуратар. Сход таварыства з'яўляецца найвышэйшай уладай у ксяндзоў палатынаў і збіраецца кожныя 6 гадоў.

◆ Вышаў спецыяльны мабільны дадатак пад назвай "Брыльянт з Кароны", прымеркаваны да юбілею 300-годдзя каранацыі абраза Маці Божай Чанстахоўскай (1717–2017). Дзякуючы яму штодзённа ў 21.00 (гадзіну Яснагорскага Зварота) карыстальнік атрымлівае на тэлефон марыйную думку – натхненне да паглыблення адносін з Маці Божай. Ідэя палягае на тым, каб каранаваць Марыю ўжо не залатымі дыядэмамі, але людскімі намаганнямі навяртання. Дадатак бясплатны.

◆ 101-гадовая бразільянка Донна Пенха прыступіла да Першай св. Камуніі. Падзея адбылася падчас св. Імшы ў доме апекі Маці Божай з гары Кармэль у Рыа-дэ-Жанейра. Каля года таму жанчына прыбыла туды і пачала хадзіць у капліцу. Аднойчы спыталася, ці можа паспавядацца. Пасля падрыхтоўкі ўдзельнічала ў Эўхарыстыі. Паводле ўражанняў працаўнікоў дома апекі, "гэта было менавіта тое, чаго яна хацела". Падкрэсліла, што жанчына была ў поўнай свядомасці і з глыбокім разуменнем прымала Камунію.

◆ Уладальнік найбуйнейшай у індустрыі моды групы кампаній "Inditex", які ўключае ў сябе такія брэнды, як "Zara", "Stradivarius", "Bershka", ахвяруе мільёны еўра для дабрачыннай арганізацыі "Карытас". Іспанец Амансіё Артэга працуе ля ткацкага станка і снедае ў кафэ разам з сябрамі-рабочымі. "Я стараюся быць звычайным чалавекам, каб мець магчымасць прагуляцца з кактэйлем па вуліцы, дзе мяне ніхто не ведае", – зазначае ён. Артэга знаходзіцца на 2-м месцы ў рэйтынгу "Forbes" у катэгорыі самых багатых людзей свету па стане на верасень 2016 года.

credo-ua.org; pch24.pl; niedziela.pl

*Ангеліна Пакачайла*

# Зняволеныя грахом

**Людзі, якія трапляюць у турму, становяцца "лішнімі" і непатрэбнымі ў грамадстве, але застаюцца аднолькава важнымі для Нябеснага Айца. Праз святароў Ён скіроўвае да вязняў неабходнае слова і запэўнівае, што ў іх заўсёды ёсць шанс навярнуцца і выправіцца.**

## "Неспакойныя" душы шукаюць Бога

Раней духоўную апеку над вязнямі перыядычна неслі святары, якія служылі ў Гродне. Сярод іх кс. Юзаф Трубовіч, кс. Антоній Абухоўскі, кс. Юзаф Лой SCJ. У 2000 годзе біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч блаславіў на душпастырскую працу з вязнямі а. Казіміра Жыліса SJ. Незадоўга ён стаў капеланам у турме. "Калі першы раз прыйшоў туды, пачуў, што святар непатрэбны, – узгадвае а. Казімір. – Але атрымаў дазвол прыходзіць раз на тыдзень на 2 гадзіны... Аднак гэта не работа! У турме на той час было каля 1200 вязняў. За адведзены час атрымлівалася сустрэцца з 2-3 зняволенымі. Пачаў наведвацца кожны дзень. Да абеда і пасля".



*Святар прыносіць у турму катэхізісы, малітоўнікі, ружанцы*

Спачатку святар заходзіў у камеры, прапанаваў сакраментальную паслугу. Складаў спісы. А потым у турме для душпастыра выдзелілі асабісты кабінет. Цяпер асуджаны павінен папярэдне напісаць заяву, каб трапіць на сустрэчу з айцом. І яны прыходзяць. Хтосьці проста паразмаўляць, каб час ішоў хутчэй. А хтосьці сапраўды шукае Бога, бо разумее, што для яго гэта адзінае выратаванне. "Большасць зняволеных увогуле не чула пра Хрыста, – гаворыць а. Казімір. – Але калі б не турма, то, магчыма, і не адкрыла б Яго для сябе. Вязніца дала зняволеным магчымасць сустрэцца са святаром, які паказаў верны шлях, прапанаваў «патрэбную» літаратуру, удзяліў сакраманты".

Здараліся розныя выпадкі. "Аднойчы падлетак заявіў мне: «Калі купіш гадзіннік, пахрышчуся», – успамінае а. Казімір. – А я яму адказаў, што не таргуюся Богам, да веры трэба прыйсці добраахвотна. Пазней ён-такі прыняў хрост. І я падарыў хлопцу гадзіннік. Хоць не абяцаў".

Многія навярнуліся ў турме. Толькі на працягу першых трох гадоў іспавання душпастырства было ахрышчана 190 вязняў. Сярод іх – 5 мусульман. Нават 3 шлюбы адбыліся за кратамі! На споведзь штомесячна прыходзіла па 40 чалавек. Некалькі гадоў таму ў кожнай камеры стаяла радыёкропка. Дзякуючы гэтаму вязні слухалі па нядзелях св. Імшу, падчас якой душпастыр асабіста да іх прамаўляў. Пасля рамонту ў турме прыстасаванні знялі.

## У турме цяжка быць добрым

Сярод вязняў шмат і мужчын, і жанчын. Няма ла падлеткаў. Узроставыя рамкі – 14–80 гадоў. Беларусы, рускія, палякі, літоўцы. Многія знаходзяцца ў вязніцы не ў першы раз. Паводле статыстыкі, пераважная большасць злачынстваў здзяйсняецца ў нецвярозым стане. Шмат хто звязваецца з дрэннай кампаніяй. "Да ўсіх прыходжу, – гаворыць а. Казімір. – Нікога не баюся. Наведваў і хворых на туберкулёз, СНІД. Страху няма, бо я іду са Святым Духам!".

Звычайна душпастыр пачынае размову з пытанняў: "За што пакараны?" і "Веруючы ці няверуючы?". Далей распачынаецца дыялог. Часта зняволеныя спрачаюцца са святаром. Некаторыя злуюцца, калі з імі жорстка і прама размаўляюць. "Быў у маёй практыцы адзін «цяжкі» чалавек, – распавядае а. Казімір, – серыйны забойца Фама. На волі не літаваўся над людзьмі, рабаваў, пазбаўляў жыцця. Спярша мяне баяліся пускаць да яго. А пасля пакідалі нас адзін на адзін, без ахоўнікаў. Мы бачыліся штотыдзень. Я прамаўляў да яго, тлумачыў нейкія рэчы. Начальства ўсё дапытвалася: «Навошта ты з гэтым д'яблам сустракаешся? Ці тут штосьці дапаможа?». Праз паўгода я яго пахрысціў. Той так і не выйшаў з турмы. Прасядзеў за кратамі 14 гадоў. Там і памёр ад раку лёгкіх".

Але пазнаць Бога – адно, жыць па Яго законах – другое. У турме рэчаіснасць іншая і іншая свядомасць. "Тут свой уклад і парадак, – распавядае Дзмітрый. – Дабрыню і міласэрнасць успрымаюць як слабахарактарнасць. Таму з ваўкамі жыць – паваўчы выць. І калі раптам сярод ваўкоў апынецца авечка, яе проста з'ядуць. Таму я схлушу, калі скажу, што трымаюся Божых запаведзяў, хоць і ведаю аб іх. Я жыву згодна сумленню ў меру тых абставін, у якіх знаходжуся. Але веру, што калі выйду на волю, распачну ўсё нанова".

## Людзі не хочуць даравать асуджаным

Грамадства з пагардай і агідай адносіцца да былых вязняў. Калі тыя спрабуюць уладкавацца ў жыцці, апынаюцца адрынутымі і нікому не патрэбнымі. Няма жылля, працу знайсці немагчыма. "Многія вяртаюцца назад, – са шкадаваннем заўважае а. Казімір. – Гавораць, што няма сэнсу мучыцца, калі можна зноў здзейсніць злачынства і трапіць у турму, дзе накормяць, напояць, ёсць, дзе прытуліць галаву. І такіх пераважная большасць. Надзея ёсць у тых, хто мае жыллё, бацькоў, жонку ці мужа, дзяцей. Ім ёсць за што «зачапіцца». А калі ніхто не чакае? Яны выходзяць на вуліцу і не ведаюць, што рабіць далей".

Раней на пачатковым этапе дабрачыннае таварыства "Карытас" падтрымлівала былых зняволеных адзеннем, прадуктамі. Цяпер дапамога абмяжоўваецца купляй білета ў патрэбным напрамку. "Я сам ужо раздаў усё, што мог: адзенне, кнігі, дыскі, касеты, – гаворыць а. Казімір. – Адзін з тых, хто выйшаў і не вярнуўся назад, перыядычна заходзіць да мяне. Дапамагаю, чым магу. Такі час... І «нармальнаму» чалавеку цяжка знайсці працу, то што ж казаць пра былога вязня".

## Бог прабачае ўсё

Сёння а. Казімір па стане здароўя радзей наведвае турму. Абслугоўвае выключна самых небяспечных злачынцаў і рэцыдывістаў. У гэтай справе яму дапамагае кс. Валерый Быкоўскі. Ён займаецца тымі, хто знаходзіцца пад следствам або здзейсніў злачынствы нявялікай цяжкасці. Разам яны (кс. Валерый яшчэ будучы дыяканам) распачыналі апеку над вязнямі ў ваўкавыскай турме. Цяпер туды даязджае кс. Юрый Канапелька.

"Няма граху, якога б Бог не адпусціў, – падагульняе а. Казімір. – Незадарма Ён міласэрны – усё прабачае. Нават самы «апошні» чалавек можа быць збаўлены. Трэба толькі пакаяцца, шчыра паспавядацца, выказаць намер выправіцца і намагацца не паўтараць мінулых памылак. А калі толькі кракадзілавыя слёзы праліваць... Не дапаможа. Калі з вязніцы граху святару ўдасца выратаваць хоць адну душу, падняць чалавека з каленяў, яго служэнне было таго вартае".

*Ангеліна Пакачайла*




***Мне як настаўніцы часта даводзілася адведваць вучняў, каб запэўніцца, што яны жывуць у спрыяльных умовах і маюць добрыя адносіны ў сям'і. Аднойчы дзяўчынка па імені Аня сама запрасіла мяне дамоў. Я ведала, што вучаніцу выхоўвае дзядуля. Маці пакінула дачку, а таты не было.***

*...Дзверы адчыніў дзед Рыгор. У пакоі я звярнула ўвагу на стол, дзе знаходзіліся Біблія, распяцце, на якім вісеў незвычайны ружанец, і свечка. Падобную карціну на той час можна было ўбачыць нячаста. Дзядуля шчыра прызнаўся, што гэта рэчы, з дапамогай якіх ён выйшаў "з жыцця ў цэмры на дарогу святла". І шчыра распавёў пра сваё дзяцінства, якое правёў у інтэрнаце, навучанне ў тэхнікуме і празмернае жаданне разбагацець, з-за якога давялося апынуцца ў турме.*

*У камеры Рыгор пасябраваў з веруючым чалавекам, які кожны дзень браў у рукі ружанец. Рабіў яго з мякішу хлеба, што раз на тры дні прыносілі на абед. Калі той заўважыў, што Рыгор пазірае з цікавасцю, навучыў і яго маліцца. На ўсё жыццё ў сэрцы засталася праўда: "Адорваючы ружамі Каралеву Ружанца, лечыш раны Яе Сыну Езусу Хрысту".*

*Ружанец пашчасціла вынесці з турмы ў полай свечцы, якая паслужыла для яго сховішчам (у часы атэізму вызнаваць веру было небяспечна). Зараз незвычайная рэліквія знаходзілася ў пакоі на самым бачным месцы. Тое, што Рыгор выйшаў на волю датэрміновa, лічыць непасрэднай дапамогай Маці Божай. Пасля ніводнага дня не прапускаў ружанцовай малітвы, рэгулярна чытаў і разважаў над Божым словам, наведваў святыню.*

***Сёння за 88-гадовым мужчынам даглядае ўнучка. Яна працуе педыятрам, мае сына. Дзякую Богу за тое, што дзядуля навучыў дзяўчынку любіць людзей, пазнаваць Бога, акунацца ў Яго светлыя крыніцы дабрыні. Дзякую і за тое, што цяпер мы можам адкрыта насіць марыйную "зброю" і свабодна карыстацца ёю. Вялікая радасць у сэрцы, калі назіраю, як вернікі ў кожную першую нядзелю месяца абменьваюцца таямніцамі Ружанца. Якая гэта сіла! Прашу вас, шаноўныя, знаходзьце час на марыйную малітву, якая мае каласальную моц.***

*Алена Блажэеўская, парафіянка касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Росі*

# Лямус пабрыгіцкага кляштара дачакаўся рэстаўрацыі



Лямус пабрыгіцкага кляштара ў пачатку XX стагоддзя



Выгляд кляштара брыгітак з паўднёвага боку

• працяг са с. 1

## БЕЗ АДЗІНАГА ЦВІКА

Драўляны лямус, размешчаны на тэрыторыі комплекса пабрыгіцкага кляштара ў Гродне, уяўляе сабой двухпавярховы будынак з балюстрадай і арачнымі галерэямі на галоўным фасадзе. Пабудаваны на бутавым падмурку ў традыцыях беларускага народнага дойлідства: з масіўных усечаных брусоў, без выкарыстання клямараў і металічных цвікоў.

*У савецкі час у гістарычным будынку былі павялічаны аконныя праёмы. Зараз спецыялісты вырашаюць, якім чынам ім можна вярнуць арыгінальны выгляд.*

Да сённяшняга дня няма адзінага меркавання наконт дакладнай даты пабудовы гэтага помніка архітэктуры. Паводле некаторых крыніц, драўляны будынак быў узведзены ў 1630 годзе. Аднак, як зазначае кс. Антоній Грэмза, рэктар пабрыгіцкага касцёла, датаванне пабудовы лямуса першай паловай XVII стагоддзя – яўнае перабольшванне. “Магчыма, гэтая лічба з'явілася па прычыне таго, што некаторыя даследчыкі звязалі будаўніцтва лямуса з будаўніцтвам самаго пабрыгіцкага кляштара, – гаворыць кс. Антоній. – Акурат на пачатку XVII стагоддзя па запрашэнні маршалка ВКЛ Крыштафа Весялоўскага ў Гродна прыбылі першыя манахіні брыгіткі. Захаваліся звесткі з 1634 года, згодна з якімі сёстры жылі ў драўляным доме. Але гэта наўрад адна і тая ж пабудова”.

Святар падкрэслівае, што навукова-гістрычныя даследаванні і параўнанні лямуса з аналагічнымі будынкамі на тэрыторыі Польшчы дазваляюць прыйсці да высновы: гродзенскі лямус, хутчэй за ўсё, паўстаў у другой палове XVIII стагоддзя.

“Вядома, што будынак меў утылітарнае прызначэнне: першы паверх служыў складскім памяшканнем, дзе захоўваўся працоўны інвентар і, магчыма, нейкія харчовыя прадукты, а на другім паверсе ўлетку жылі манахіні”, – адзначае кс. рэктар.

Лямус належаў сёстрам і разам з іншымі пабудовамі, якія знаходзіліся на тэрыторыі старадаўняга кляштара брыгітак, быў перададзены ва ўжыванне псіханеўралагічнаму дыспансеру. Афіцыйнае вяртанне кляштарных будынкаў мясцоваму Касцёлу адбылося толькі ў 2003 годзе.

## АДНАВІЦЬ, ЗАХАВАЎШЫ АЎТЭНТЫЧНАСЦЬ

Шмат гадоў унікальны будынак знаходзіўся ў занядбаным стане і руйнаваўся проста на вачах. Кіраўніцтва Гродзенскай дыяцэзіі выказала зацікаўленасць у аднаўленні помніка архітэктуры і звярнулася з хадайніцтвам аб рэстаўрацыі ў Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы. Там пагадзіліся дапамагчы і, узгадніўшы гэтае пытанне з Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, пачалі падрыхтоўку адпаведных дакументаў.

“Сёння мы маем на руках тэхнічную дакументацыю па аднаўленні гродзенскага лямуса, – гаворыць кс. Аляксандр Сасноўскі, кіраўнік эканамічна-будаўнічага аддзела Гродзенскай дыяцэзіі і адказны за рэстаўрацыю лямуса. – Важна падкрэсліць, што на аб'екце будуць праводзіцца менавіта рэстаўрацыйныя працы. Іх нельга блытаць з рэканструкцыяй. Паколькі лямус уключаны ў дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Беларусі, дзе яму прысвоена нулявая катэгорыя (*гісторыка-культурная каштоўнасць, уключаная або прапанаваная да ўключэння ў спіс сусветнай спадчыны* – ***заўв. рэд.***), нашай галоўнай задачай з'яўляецца не толькі аднаўленне будынка, але і захаванне яго аўтэнтычнасці”.

Святар адзначае, што правядзенне рэстаўрацыйных прац будзе ажыццяўляцца строга на падставе распрацаванай навукова-праектнай дакументацыі, зацверджанай у міністэрствах культуры абедзвюх краін. За выкананне адказны польскі бок: у праекце задзейнічаны архітэктары, інжынеры, праекціроўшчыкі і іншыя кваліфікаваныя спецыялісты, якія займаюцца драўляным дойлідствам, валодаюць гістарычнымі тэхналогіямі будаўніцтва і маюць багаты вопыт у гэтай галіне.

“Мы ўжо ачысцілі будынак ад смецця, знялі з драўляных сцен дранку і тынкоўку, якія з'явіліся тут у савецкі час, – адзначае кс. Аляксандр. – Цяпер будзем умацоўваць фундамент. Пасля чаго прыступім да замены некалькіх прагніўшых драўляных элементаў, якія ляжаць на падмурку. Да пачатку зімы хочам паспець накрыць спецыяльным тэнтам дах будынка, каб абараніць яго ад далейшага разбурэння пад уздзеяннем ветру і ападкаў”, – дзеліцца планамі святар. І дадае, што каманду рэстаўратараў наперадзе чакае шмат працы: трэба замяніць падлогі, прыбраць перагародкі і печкі ўнутры будынка (паколькі яны не з'яўляюцца аўтэнтычнымі), адрамантаваць унікальную страху з дранкі.

## “НЕЛЬГА, КАБ УНІКАЛЬНЫ ПОМНІК СТАЯЎ БЕЗ СПРАВЫ, ТРЭБА ЎДЫХНУЦЬ У ЯГО ЖЫЦЦЁ”

Сёння турысты зазвычай абыходзяць бокам унікальны гродзенскі лямус, схаваны за высокім кляштарным мурам. Але ў будучым помнік архітэктуры адкрыецца для свабоднага наведвання: у ім з'явіцца музей Гродзенскай дыяцэзіі. “Мы не хочам зачыняцца ўнутры свайго двара, захоўваючы прыгожы будынак выключна для сябе, – гаворыць кс. Аляксандр. – Гэта аб'ект культурнай спадчыны, і трэба зрабіць так, каб максімальная колькасць людзей магла яго наведваць. Дзеля прыцягвання турыстаў з розных куткоў Беларусі і з-за мяжы плануем стварыць сталую экспазіцыю, прысвечаную нашай дыяцэзіі, дзе пакажам унікальныя кнігі, алтарныя абразы, гістарычныя фотаздымкі, дакументы. Плануем таксама наладзіць супрацоўніцтва з іншымі беларускімі музеямі з мэтай абмену экспазіцыямі”.

*Спецыялісты сцвярджаюць, што з рэстаўрацыяй старых будынкаў нельга спяшацца, лепш рабіць яе якасна, прытрымліваючыся намечанага плану.*

Святар зазначае, што фонды дыяцэзіяльнага музея размесцяцца ў будынку пабрыгіцкага кляштара. Там жа плануецца стварыць інтэрактыўны канферэнц-зал на 100 чалавек, дзе будуць дэманстравацца відэаэкскурсіі па аб'екце. Фінальным этапам прац будзе добраўпарадкаванне прылягаючай тэрыторыі.

*Кінга Красіцкая*







Лямус, унікальная для Гродна гістарычная пабудова, знаходзіцца зараз у крытычным стане




### Каталіцкія місіянеркі намінаваны на Нобелеўскую прэмію

***Вылучыць іх кандыдатуры ў камітэт прэміі прапанавала дырэкцыя карэйскага шпіталя, дзе ахвярна служылі сёстры. Дзве аўстрыйскія манахіні Марыяна Сцёгер і Маргарэт Пісар большую частку жыцця прысвяцілі працы з пракажонымі.***

*Падчас вайны з Японіяй на востраве Сарок размяшчаўся адзін з лагераў, дзе былі зняволены і людзі, хворыя на праказу. У Карэі, таксама як і ў Японіі і Кітаі, гэтае захворванне выклікае ў грамадства асуджэнне і меркаванне аб Божай кары. Галоўнай місіяй сясцёр было вяртанне пацыентам клінікі годнасці і ўпэўненасці ў сабе. “Стараліся адведваць іх ранкам, калі нікога не было. Часта разам вячэралі ў канцы дня”, – успамінае адна з намінантак.*

*Пазней манахіні арганізавалі ў Аўстрыі збор лекаў і грошай на будаўніцтва дома для здаровых дзяцей такіх пацыентаў.*




### “З'яднаныя для міру”

***Пад такім дэвізам на Алімпійскім стадыёне ў Рыме быў разыграны футбольны матч. Ініцыятыва палягала на тым, каб дапамагчы людзям, якіх закрануў апошні землятрус у цэнтральнай частцы Італіі, а таксама звярнуць увагу свету на праблему міру.***

*Ідэю правесці матч падтрымаў Святы Айцец Францішак, які сказаў, што футбалісты з'яўляюцца добрым прыкладам, асабліва для моладзі. Удзел у мерапрыемстве вядомых спартсменаў, у тым ліку Дыега Армандa Марадоны і Францэска Тоці, можа завастрыць увагу грамадства на важных пытаннях рэчаіснасці.*




### Ірландыя пачынае падрыхтоўку да IX Сусветнай сустрэчы сем'яў

***Спатканне пройдзе пад дэвізам “Малітва ў сям'і: радасць для свету” 22–26 жніўня 2018 года ў Дубліне.***

*Адначасова з тэхнічнай падрыхтоўкай будзе арганізавана катэхетычная праграма, заснаваная на дакументах папы Францішка: апостальскіх адгартацыях “Evangelii Gaudium” і “Amoris Laetitia”, а таксама энцыкліцы “Laudato Si”.*

*Мерапрыемства ўяўляе сабой найбуйнейшы з'езд сем'яў у свеце. Праходзіць раз на тры гады. Мае на мэце супольнае перажыванне і святкаванне сямейнага жыцця, а таксама клопат аб гэтай справе Паўсюднага Касцёла.*

*Кінга Красіцкая*

## Фацімскае набажэнства адбылося ў Зарачанцы

*На малітве ў парафіі Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі сабралася шмат людзей, якія бачаць патрэбу звароту да Маці Божай.*



Набажэнства распачалося ружанцовай малітвай, падчас якой вернікі прасілі аб дапамозе ў вырашэнні цяжкіх праблем у сваіх сем'ях і Касцёле. Затым была адпраўлена св. Імша, якую ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.

У гаміліі іерарх адзначыў, што "кожны чалавек патрабуе Божай міласэрнасці, якая сыходзіць на людзей праз Марыю – Міласэрную Маці, гатовую прыйсці з дапамогай у кожнай патрэбе". Біскуп нагадаў, што ў апошні час у Зарачанцы падчас фацімскіх набажэнстваў асаблівым чынам узносяцца малітвы ў інтэнцыі супакою ў свеце і сем'ях. І падзякаваў пробашчу парафіі кс. Віктару Мыслюку і вернікам за распаўсюджванне культу Маці Божай Фацімскай і малітвы ў інтэнцыях Святога Айца, біскупаў, святароў, кансэкраваных асоб.

Урачыстасць скончылася працэсіяй з фігурай Маці Божай Фацімскай вакол касцёла.

## Свята салезіянаў-супрацоўнікаў прайшло ў Дзятлаве

*Салезіяне-супрацоўнікі – гэта свецкія людзі, якія дзейнічаюць на карысць Касцёла і грамадства, распаўсюджваючы каштоўнасці таварыства ў сваім асяроддзі.*



На свята ў парафію Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі прыехалі святары салезіяне і сёстры салезіянкі, а таксама салезіянскія супрацоўнікі, аніматары і вернікі з Мінска, Смаргоні і Бараўлянаў. На ўрачыстасці прысутнічаў і рэгіянальны настаяцель рэлігійнай каталіцкай місіі св. Францішка Сальскага ў Беларусі кс. Віктар Гайдукевіч SDB. Ганаровым госцем свята стаў дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандр Яшэўскі SDB. Іерарх узначаліў урачыстую св. Імшу, якую ахвяраваў за ўсю салезіянскую сям'ю.

Падчас літургіі салезіяне-супрацоўнікі аднавілі свае абяцанні: быць вернымі вучнямі Хрыста; супрацоўнічаць з апостальскай дзейнасцю мясцовага Касцёла, клапаціцца пра развіццё і збаўленне моладзі; узрастаць у салезіянскім духу і ўзмацняцца ў ім.

Пасля Эўхарыстыі адбылося ўшанаванне рэліквій бл. Александрыны Марыі да Коста. Завяршылася ўрачыстасць святочным канцэртам.

## Міжнародная сустрэча супрацоўнікаў і партнёраў "Карытас" адбылася ў Бараўлянах

*Форум сабраў замежных партнёраў з Чэхіі, Аўстрыі і Германіі. У сустрэчы таксама прынялі ўдзел дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі і дырэктар дыяцэзіяльнага "Карытас" кс. Раман Рачко.*



Сёлета форум праходзіў пад дэвізам "Міласэрнасць на дарогах трагедыі". Ён распачаўся св. Імшой з удзелам Апостальскага нунцыя ў Беларусі аб-па Габара Пінтэра. Пасланнік Папы падкрэсліў, што хрысціянская дабрачынная дзейнасць з'яўляецца, перш за ўсё, адказам на тое, што ў канкрэтнай сітуацыі мае непасрэдную важнасць: галодныя павінны быць насычаны, голыя – апрануты, хворых неабходна лячыць з надзеяй на аздараўленне.

Падчас сустрэчы ўдзельнікі выслухалі шматлікія даклады. З канферэнцыяй, прысвечанай вынікам працы за апошнія тры гады і будучым задумкам, выступіў кс. Віталій Дабраловіч, дырэктар Нацыянальнага "Карытас". Святар падкрэсліў, што арганізацыя ўдзяляе асаблівую ўвагу дзецям-сіротам, інвалідам, малазабяспечаным асобам, пенсіянерам, шматдзетным, няпоўным сем'ям, а таксама ўсім, хто перажывае складаную жыццёвую сітуацыю, незалежна ад рэлігійнай, палітычнай і нацыянальнай прыналежнасці.

## Гродзенскія семінарысты распачалі навучальны год

*На ўрачыстай інаўгурацыі новага навучальнага года ў Вышэйшай духоўнай семінарыі прысутнічалі біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, дапаможны біскуп дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, выкладчыкі і выхаваўцы, духавенства і манаскія сёстры, свецкія супрацоўнікі, а таксама рэктар Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі ў Пінску кс. Андрэй Рылка і віцэ-рэктар кс. Адам Дынак.*



Звяртаючыся да сабраных, біскуп Кашкевіч падкрэсліў, што сучаснаму свету патрэбны святары, цалкам прысвечаныя справе евангелізацыі. "Сёння мы дзякуем Езусу за ласку кожнага паклікання і просім, каб Ён узмацніў веру і далей суправаджаў тых, хто за Ім паследаваў", – адзначыў іерарх.

З дакладам на тэму "Вяртанне рэлігіі, постсекулярызм і сучасныя праблемы хрысціянства" выступіў кс. Андрэй Рылка. Святар адзначыў, што сустрэча сучаснага чалавека з рэлігіяй з'яўляецца адметнай рысай нашага часу, што ўсё часцей можна заўважыць вяртанне рэлігіі ў розныя галіны грамадскага жыцця.

Інаўгурацыя новага навучальнага года завяршылася ў семінарыйнай капліцы св. Імшой, падчас якой 5 клерыкаў III курса атрымалі духоўны строй – сутану. Сення ў семінарыі 29 алюмнаў рыхтуюцца стаць святарамі.

## "Адкрываю сябе"

*Пад такой назвай у араторыі св. Дамініка Савіо ў Бараўлянах прайшлі рэкалекцыі распазнання паклікання для дзяўчат. У сустрэчы прынялі ўдзел маладыя вернiцы з Бараўлянаў, а таксама са Смаргоні і Мінска.*



Праграма рэкалекцый прадугледжвала як тэарэтычныя, так і практычныя заняткі. Дзяўчаты прымалі ўдзел у св. Імшы, маліліся на ружанцы, разважалі над Божым словам. Пры гэтым вучыліся слухаць і адкрываць голас Пана, задумваліся над тым, як распараджацца дарамі, што атрымалі ў жыцці, і над канкрэтнымі крокамі, праз якія жадаюць аднаўляць у сабе Божае аблічча, атрыманае ў момант хросту.

## Інтэграцыйная сустрэча моладзі з душпастырства "OPEN" прайшла ў Капцёўцы

*Падчас спаткання ў санктуарыі Маці Божай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку надзеі маладыя вернікі ўрачыста распачалі навучальны год і даверылі Найсвяцейшай Марыі ўсе свае турботы.*



Сустрэча пачалася вячэрняй св. Імшой. Затым быў час на забаву і супольную малітву, адарацыю Езуса ў Найсвяцейшым Сакраманце і споведзь, разважанні над Божым словам і асабістыя рэфлексіі.

У межах спаткання душпастыр моладзі кс. Антоній Грэмза прамовіў да сабраных канферэнцыю "Як правільна будаваць супольнасць і быць сям'ёй у Хрысце". Святар распавёў, як навучыцца быць уважлівым у адносінах адзін да аднаго і паяднацца з Богам, каб "паглыбіцца ў хвалі Ягонай любові".

## Адпустовая ўрачыстасць адбылася ў Шчучыне

*Мясцовыя вернікі ўшанавалі сваю апякунку, св. Тэрэзу ад Езуса. Урачыстасць узначаліў дэкан Шчучынскага дэканата кс. Юрый Кузьміч.*



Да сёлетняга адпусту парафіяне рыхтаваліся праз 40-гадзіннае набажэнства, якое правёў кс. Андрэй Кеўліч з парафіі Горкі. У духоўных разважаннях святар засяродзіў увагу вернікаў на тэме міласэрнасці, а таксама распавёў пра сітуацыю Касцёла на ўсходніх тэрыторыях Беларусі.

Пасля адпустовай урачыстасці адбылася штомесячная сустрэча піярскіх студэнтаў на тэму "Стаўленне хрысціяніна да няверуючых асоб", падчас якой кс. Андрэй падзяліўся з моладдзю сваім досведам.

## АНОНСЫ

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАЯ СУСТРЭЧА ЧЛЕНАЎ ЖЫВОГА РУЖАНЦА ПРОЙДЗЕ Ў КАПЦЁЎЦЫ

**Спатканне ў санктуарыі Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку надзеі адбудзецца 29 кастрычніка. Запрашаюцца святары, кансэкраваныя асобы, адказныя і ўдзельнікі ружанцовага малітоўнага руху.**

Праграма:

11.00 – прывітанне;
– выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту (магчымасць прыступіць да споведзі);
– Ружанец (Таямніцы святла);
– перапынак;
12.15 – канферэнцыя "Аб духоўнай моцы малітвы на ружанцы";
13.00 – св. Імша;
– абвяшчэнне і цырымонія ўручэння парафіяльным групам Жывога Ружанца малітоўных інтэнцый;
14.30 – абед, заканчэнне сустрэчы.

*Паведаміць аб удзеле неабходна да 25 кастрычніка кс. Міхалу Ластоўскаму, дыяцэзіяльнаму мадэратару колаў Жывога Ружанца Гродзенскай дыяцэзіі і кусташу санктуарыя ў Капцёўцы па тэлефоне: (8-029) 116-87-26.*

### КАНЦЭРТ АРГАННАЙ І ВАКАЛЬНАЙ МУЗЫКІ АДБУДЗЕЦЦА Ў ГЕРВЯТАХ

**У праграме прагучаць музычныя творы ў выкананні лаўрэата Усерасійскага конкурсу, саліста Прыморскай сцэны Марыінскага тэатра Ігара Сівянкова, салісткі аркестра "Алімпія Класіка" і жаночага музычнага праекта "Бон Вояж" Вольгі Перагуд, вакальнага ансамбля "Арнамент", салісткі Беларускай дзяржаўнай філармоніі Наталлі Кірпічэнкавай і магістра музыкалогіі, бакалаўра гісторыі і музыкі, арганіста касцёла Святой Тройцы Андрэя Міхневіча. Гасцей канцэрта чакае шмат сюрпрызаў. Адзін з іх – ігра на ўнікальным інструменце – армянскім дудуку.**

Мерапрыемства адбудзецца 5 лістапада ў 16.00 у касцёле Святой Тройцы.

*Даведкі па тэлефонах: (8-029) 885-02-04, (8-029) 943-18-08.*

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАЯ СУСТРЭЧА СЕМ'ЯЎ АДБУДЗЕЦЦА Ў ЛІДЗЕ

**Спатканне пройдзе 12 лістапада ў парафіі Святой Сям'і. Пачатак у 10.30. У праграме запланаваны адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту, св. Імша з аднаўленнем сужэнскіх абяцанняў, сведчанні сямейных пар, канферэнцыя для бацькоў, анімацыйныя забавы для дзяцей.**

Запрашаюцца сем'і Гродзенскай дыяцэзіі. Гэта цудоўная нагода для сужэнцаў, якія ў бягучым годзе адзначаюць юбілей заключэння шлюбу, і для іх дзяцей.

*Даведкі па тэлефоне: (8-029) 784-05-72.*

### ДНІ СУПОЛЬНАЙ МАЛІТВЫ ПРОЙДУЦЬ У ВІЛЕНСКІМ САНКТУАРЫІ

**Традыцыйна на ўспамін Маці Божай Вастрабрамскай у Вільнюсе збіраюцца вернікі розных нацыянальнасцей. Св. Імша з удзелам беларусаў адбудзецца 19 лістапада ў 15.00 у касцёле св. Тэрэзы** *(побач з капліцай цудатворнага абраза Маці Божай Вастрабрамскай).*

На супольную малітву запрашаюцца вернікі з усіх дыяцэзій Беларусі.

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**24 кастрычніка 1967 г.** – кс. Іпаліт Ядкоўскі, *проб. Воўпа;*
**25 кастрычніка 1993 г.** – кс. Ян Адамовіч, *проб. Краснае;*
**28 кастрычніка 1993 г.** – кс. Валянцін Кубік SJ, *душп. Індура;*
**1 лістапада 1972 г.** – кс. Мар'ян Чабаноўскі SchP, *проб. Ліда-Слабада;*
**2 лістапада 1952 г.** – кс. Людвік Віткоўскі SDB, *проб. Дварэц.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка* ***grodnensis.by***

# 1 ЛІСТАПАДА – УРАЧЫСТАСЦЬ УСІХ СВЯТЫХ

## КОЖНЫ МАЕ ПРАВА БЫЦЬ СВЯТЫМ

У гэты дзень Касцёл успамінае ўсіх тых, хто выконваў у сваім жыцці Божую волю і атрымаў за гэта вечнае шчасце побач з Панам. Гаворка не толькі аб прызнаных святых (беатыфікаваных і кананізаваных), але і аб усіх памерлых верніках, якія ўжо дасягнулі збаўлення. Яны могуць не мець свайго месца на алтарах, у Імшале, літаніі, але ўжо знаходзяцца ў небе. Таму дзень Усіх Святых яшчэ можна параўнаць з Магілай невядомага салдата. Сімвалічнае пахаванне, што крые цела анаімнага байца, з'яўляецца месцам памяці безыменных герояў. Падобным чынам 1 лістапада праслаўляем "неафіцыйных" святых: не вынесеных Касцёлам да хвалы алтара, але ўзнесеных Панам у неба. Іх поўны спіс вядомы толькі Усемагутнаму.

Гэтая ўрачыстасць павінна пабуджаць чалавека да разважання, як імкнуцца да святасці. Бо кожны, хто праз сакрамант святога хросту стаў дзіцём Пана Бога, запрошаны рэалізаваць у жыцці Яго словы: "Асвячайце сябе і будзьце святымі, бо Я святы, Пан, Бог ваш!" (Лев 20, 7).

Святы той, хто любіць Бога і блізкіх, сумленна і старанна выконвае сваю працу з той кампетэнтнасцю, на якую ў дадзены момант здольны, жыве Евангеллем не ў прыгожых словах, а ў канкрэтных учынках. Дасягнуць святасці можа кожны. Трэба толькі браць прыклад з Езуса Хрыста і жыць так, як Ён вучыў, кіруючыся любоўю, супакоем, прабачэннем.

# 2 ЛІСТАПАДА – УСПАМІН УСІХ ПАМЕРЛЫХ ВЕРНІКАЎ

## ПАДЗЯКАВАЦЬ ЗА ДАБРО

У другі дзень лістапада людзі накіроўваюцца (па меншай меры ў думках) на могілкі. Шукаюць там прозвішчы знаёмых, якія правялі на гэтае месца спачыну ўжо даўно ці ў апошнія месяцы, тыдні, дні. Менавіта на могілках без лішніх сведкаў, узнёслых слоў, мудрых прамоў мы выказваем сваю простую ўдзячнасць тым, каго ўжо няма побач. У цішыні ападаючага восеньскага лісця, падмарожанага першымі замаразкамі, у мігценні палаючых лампадак прагнем падзякаваць за дабро, якое нам перадалі, вартасці, якія абаранялі з вялікай адданасцю, веру, якую сцераглі, любоў, якой былі верныя, і надзею, якую не згубілі.



*Шлях да збаўлення нялёгкі, таму не ўсім пасля смерці шчасціць адразу трапіць у неба*

Засяроджваемся такcама і на сваім жыцці. Тут, як ні ў адным іншым месцы, узгадваем словы велікапоснага пакутнага звароту: "Памятай, што ты – прах і ў прах вернешся". Усведамляем праўду аб смерці і неабходнасць нястомнага вяртання да Пана. Менавіта на могілках разумеем, што павінны клапаціцца пра сваю несмяротную душу, якая мае патрэбу ў пастаянным доглядзе.

Няхай сёлетні Задушны дзень будзе нагодай ажывіць веру і ўмацаваць духоўную сувязь з тымі, хто ўжо адыйшоў з гэтага свету і чакае нашай духоўнай дапамогі.

**Кс. Юрый Марціновіч**

***1–8 лістапада за набожнае наведванне могілкаў і малітву за памерлых можна атрымаць поўны адпуст.***




***Што адпуст дае чалавеку? Чым поўны адпуст адрозніваецца ад частковага?***

*Кожны грэх нясе за сабой наступствы. Ён пазбаўляе чалавека еднасці з Богам і тым самым "блакуе" крыніцу вечнага жыцця. Гэта называецца "кара" за грэх. Яна вынікае з самой натуры граху, таму не павінна ўспрымацца ў якасці Божай помсты. Пазбавіцца бязладу неабходна або тут, на зямлі, або пасля смерці ў месцы для душ пад назвай "чысцец".*

*Паводле Катэхізіса каталіцкага Касцёла, адпуст (indulgentia) – гэта дараванне Богам часовай кары за грахі, віна за якія ўжо прабачана. Розніца паміж поўным і частковым адпустамі ў тым, у якой ступені вольным ад "кары" ён робіць чалавека. Калі параўнаць ачышчэнне душы з рамонтам, то розніца такая ж, як паміж капітальным і касметычным аднаўленнем.*

*Каб атрымаць поўны адпуст, трэба пазбавіцца прыхільнасці да любога граху, нават паўсядзённага (калі гэта ўмова цалкам не здзейснена, атрымліваецца частковы адпуст), быць у стане асвячаючай ласкі (без сьмяротнага граху), прыняць святую Камунію, адгаварыць пэўныя малітвы (напрыклад, "Ойча наш", "Вітай Марыя"), а таксама памаліцца ў інтэнцыях Святога Айца і выканаць пэўны учынак, звязаны з адпустам.*

*Ахвяраваць адпуст можна за сябе ці за памерлых праз паслугу Касцёла, які раздае ласкі адкуплення. Жывыя вернікі маюць магчымасць асабіста скарыстаць з адпусту. Ахвяраваць яго за блізкага чалавека немагчыма, бо атрымліваецца, што воля асобы не адыгрывае ніякай ролі ў справе Збаўлення. А такая выснова супярэчыць навуцы і рэчаіснасці Касцёла.*

**А. Яўген Голуб OFMConv**
*паводле grodnensis.by*




# Гродзенскія медыкі сабраліся на супольнай малітве

18 кастрычніка ва ўспамін св. евангеліста Лукі супрацоўнікі службы аховы здароўя маліліся аб патрэбных ласках падчас св. Імшаў, якія былі адпраўлены ў гродзенскай катэдральнай базіліцы св. Францішка Ксаверыя, а таксама ў шпітальнай капліцы Божай Міласэрнасці ў Гродзенскай клінічнай бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі.











# Какие бывают чувства и что они означают?

*Здравствуй, Маленький Друг! Наверняка, Тебе не раз приходилось слышать, что у кого-то душа радуется или плачет, болит или поет... Это маленькие звоночки, к которым нужно прислушиваться. Они сигнализируют о том, что внутри человека что-то происходит, а именно – зарождаются чувства.*

Чувства – удивительный Божий дар. И если удастся с ними подружиться, жить станет намного проще и веселее. Не нужно делить чувства на хорошие и плохие. Любое ощущение, которое мы испытываем, подсказывает, как поступить в той или иной ситуации, помогает лучше понять себя и других. Смотри, как это происходит.



*Ольга Парада,*
*детский психолог,*
*арт-терапевт*



### Чувства доставляют удовольствие

Как прекрасно ощущать себя счастливым. Какой ужасной была бы жизнь, если бы радоваться было нечему. Ты бы не замирал от восторга перед рождественской елкой и не бросался на шею родителям, по которым успел соскучиться за день. Все это приятные чувства, которые позволяют получать удовольствие от жизни, отличать радостные события от грустных.



### Чувства предупреждают: что-то не так

Есть чувства, которые вспыхивают внутри, как красный свет светофора, и громко кричат о помощи. Например, Ты злишься или напуган. Очевидно, Тебя кто-то обидел, причинил зло. Если будешь обращать внимание на такие чувства, пытаться в них разобраться, этим самым позаботишься о себе и не попадешь в беду.



### Чувства помогают понять, чего не хватает

Если Тебе грустно, одиноко, значит, не получил того, что действительно необходимо. В таком случае Тебе нужен друг, с которым можно поиграть и посекретничать. Порой могут быть непонятны слова учителя. А следовательно, нужны дополнительные разъяснения от него.

**Вот видишь, все чувства одинаково важны. Неправда, что одни – хорошие, а другие – плохие. Есть чувства, которые не доставляют удовольствия, их даже не хочется переживать. Кому приятно, к примеру, злиться, грустить, скучать в одиночку? Но не стоит забывать, что каждое из них приходит не случайно. Всякое чувство стремится чему-то Тебя научить. И если не будешь их сторониться, научишься жить в спокойствии и счастье.**

**Несмотря на то, что среди чувств есть и очень неприятные, запомни: даже в худшие моменты Ты не один. В Библии Бог дает нам одно прекрасное обещание: «Вот Я повелеваю тебе: будь тверд и мужествен, не страшись и не ужасайся; ибо с тобою Господь, Бог твой, везде, куда ни пойдешь» (ИсНав. 1, 9). Не забывай об этом.**

***Упражнение в семье «Рисунки на тему библейской книги Иисуса Навина»***

*Возьмите каждый по листу бумаги, карандаши, фломастеры. Прочтите стих из книги Иисуса Навина (1, 9). Пусть каждый член семьи нарисует иллюстрацию и покажет на ней те эпизоды, при которых он был сильно перепуган или расстроен. Если кто-то никак не может припомнить конкретного случая из реальной жизни, пусть нарисует то, что может его напугать или расстроить. Когда работа будет закончена, расскажите о своих рисунках. Завершите игру простой молитвой к Господу. Говорить можно простыми словами. Рисунки должны помочь в молитве.*

***Господи, благодарю Тебя за то, что Ты всегда со мной, даже когда ______________***

***____________________________________________________________***

***из-за ________________________________________________________***

***Амінь.***

***По материалам книги Л. Сибли «Чувства разные нужны – чувства разные важны»***

# АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Пятрашку**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, шчасця, поспехаў у душпастарскай працы, апекі Маці Божай і людской добразычлівасці. Няхай Ваша жыццё будзе шчаслівым і блаславёным, а Бог адорвае Вас сваімі ласкамі. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Лядска*

**Шаноўнай Спадарыні Ірэне Ашмян**

з нагоды Дня нараджэння жадаем радасці, доўгіх і шчаслівых гадоў жыцця, поспехаў у працы і ў штодзённым жыцці, здзяйснення мар, душэўнага супакою, шчырых і адкрытых людзей на Вашым шляху. Шчасці Божа!

*Францішканскі ордэн свецкіх, Ружанцовыя колы з парафіі Тэалін*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Пятрашку**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца складаем найлепшыя пажаданні: Божага бласлаўлення, апекі Марыі Панны, усіх дароў ад Хрыста, моцнага здароўя, душэўнага супакою і зычлівых людзей побач. Няхай агонь Святога Духа, які палае ў Вашым сэрцы, ніколі не згасне, а радасць несці Хрыста людзям напаўняе душу. Дзякуем за навуку і веды, якімі Вы заўсёды гатовыя з намі падзяліцца, а Богу – за тое, што паслаў нам Вас.

*Парафіяне з в. Еўлашы*

**Шаноўная Марыя Юльянаўна Трубей!**

З нагоды 80-годдзя перасылаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці і надзеі на кожны дзень, а таксама нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Святога Духа і ўсіх Божых ласкаў. Няхай побач будуць добрыя і зычлівыя людзі, а ўсмешка не знікае з Твайго твару.

*Дочкі Валянціна і Таццяна, сын Анатоль, былыя парафіяне з Зэльвы*

**Паважанаму Ксяндзу Ігару Анісімаву**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем шмат Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, а таксама няспыннай дапамогі святога Заступніка. Няхай праца прыносіць шчодры плён на ніве Пана і будзе дапамогай для нас у дарозе да святасці. Няхай усмешка ніколі не знікае з Твайго твару, а радасць і дабрыня заўсёды госцяць у сэрцы.

*Родныя*

**Паважанаму Айцу Дзмітрыю Лабкову**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем Божага бласлаўлення на кожны дзень, няспыннай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Заступніка, душэўнага супакою, радасці ад выконваемай святарскай паслугі, а таксама здароўя, стойкасці і моцы на кожны дзень.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Несцеру**

з нагоды Дня нараджэння і Імянін складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог адорвае Вас найлепшым здароўем, Найсвяцейшая Маці мае ў сваёй апецы, святы Заступнік нястомна дапамагае, а Святы Дух адорвае патрэбнымі дарамі. Жадаем таксама радасці, сіл, людской зычлівасці і стойкасці ў працы.

*Вернікі з в. Вінцукі*

**Паважанаму Ксяндзу Тадэвушу Крыштопіку**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем здароўя, шчасця і радасці. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожную хвіліну жыцця, Найсвяцейшая Маці настомна апекуецца, а Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам.

*Удзячныя парафіяне з капліцы Божай міласэрнасці, Свіслач*

**Паважанаму Ксяндзу Дзмітрыю Несцеру**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, душэўнага супакою, аптымізму. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе доўгім і ясным, і на ім сустракаюцца добрыя людзі. Няхай Вашы шчырыя малітвы і павучальныя казанні пранікаюць глыбока ў людскія душы і радуюць сэрцы. Няхай міласэрны Бог адорвае Вас сваім бласлаўленнем, Святы Дух – усімі дарамі, а моц і сіла выплываюць з Крыжа Езуса. Няхай святы Заступнік абараняе Вас у кожную хвіліну жыцця. Дзякуем за адданую працу пры рамонце касцёла.

*З малітвай, Касцёльны камітэт і парафіяне з Геранёнаў*

**Паважанаму Ксяндзу Дзянісу Шмыгіну**

з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: здароўя, душэўнага супакою, апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка. Няхай ніколі не згасне запал да абвяшчэння Божага слова, а радасць несці Хрыста людзям напаўняе Вашае сэрца. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Міжэрычаў*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: slowo.grodnensis@gmail.com.; **http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 5222; тыраж 5240; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная